

# Дзвінскі ўзгорак

*Кроч на свой родны,*
*дзвінскі ўзгорак,*
*каб глядзець у будучую сінь*

ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ВІЦЕБСКАГА РАЁНА, №4 (91)
САКАВІК 2019 ГОДА

ПАДЗЕЯ

## У ВІЦЕБСКУ АДКРЫЛІ НОВУЮ ПАЛІКЛІНІКУ

**У віцебскім мікрараёне "Поўдзень-7" урачыста адкрылі новы і доўгачаканы паліклінічны цэнтар. На адкрыцьцё паліклінікі ў Віцебск прыехаў прэм'ер-міністар Сяргей Румас. Імпрэза адбылася 7 сакавіка. Паліклініку будавалі 12 гадоў...**

Ва ўрачыстасьці бралі ўдзел старшыня Віцебскага аблвыканкаму Мікалай Шарстнёў, начальнік галоўнага ўпраўлення аховы здароўя аблвыканкаму Юры Дзяркач, мэр гораду Віктар Нікалайкін ды іншыя.

Мікалай Шарстнёў распавёў пра цяжкасьці, зьвязаныя з будаўніцтвам паліклінічнага комплексу, і дзякаваў прэм'ер-міністру за дапамогу ў фінансаваньні (будучы старшынём праўленьня "Банку развіцьця РБ", Румас паспрыяў у выдзяленьні сродкаў на будоўлю). Але, як было агучана, асноўнае фінансаваньне будоўлі адбывалася з абласнога ды гарадзкога бюджэтаў. Працы выконваў будаўнічы трэст №9.

Сяргей Румас, у сваю чаргу, зазначыў, што "нам трэба больш клапаціцца пра сваё здароўе", ды павіншаваў жанчын з надыходзячым сьвятам.

"Відавочна, што ў нашай мэдыцыны – жаночы твар, таму сымбалічна, што такі прыгожы сучасны аб'ект мы адчыняем напярэдадні Міжнароднага жаночага дня", – заўважыў прэм'ер-міністар.

Галоўны ўрач новай паліклінікі Станіслаў Цітовіч выказаў падзяку "за цудоўны падарунак" кіраўніцтву краіны, вобласьці і гораду. Паабяцаў, што мэдыкі будуць цяпер працаваць яшчэ з большым энтузіязмам.

Сымбалічны ключ ад паліклінікі перадаў галоўнаму ўрачу ўстановы гендырэктар будтрэсту №9 Уладзімер Леньчыкаў.

Чырвоную стужку разрэзалі Сяргей Румас, Мікалай Шарстнёў, Віктар Нікалайкін і Станіслаў Цітовіч. Прысутныя на імпрэзе патэнцыйныя пацыенты сустрэлі адкрыцьцё воплескамі.

Пасьля таго, як стужку перарэзалі, народ пасунуўся да ўваходу ў новую паліклініку. Але людзей усярэдзіну не пусьцілі – параілі прыходзіць у наступны панядзелак, калі паліклініка пачне працаваць.

Нагадаем, будаўніцтва паліклінікі ў мікрараёне "Поўдзень-7" у Віцебску пачалося яшчэ ў 2007 годзе, але затым будоўлю на доўгі час "замарозілі". Як лічаць грамадзкія актывісты, у тым, што паліклініку нарэшце дабудавалі, ёсьць і іхняя заслуга.

Севярынец: "Калі мы ў 2014 годзе бегалі наконт будаўніцтва паліклінікі ў Білеве, я ўжо ведала пра гэтую паліклініку. Тады на "замарожанай" будоўлі не было нават першага паверху. За будаўніцтва паліклінікі ў Білеве мы прынесьлі 4756 подпісаў. Нам сказалі, што спачатку дабудуюць тут, а потым ужо будуць думаць пра Білева", – расказвае віцебская актывістка Тацяна Севярынец.

"У 2016-м мы зноў прыйшлі да гарадзкіх уладаў з подпісамі за пабудову ўжо паліклінікі на "Поўдзень-7". Паказалі, што ёсьць вялікія праблемы, прынесьлі 1600 подпісаў, і неўзабаве яны пачалі дабудоўваць. Але давялі да 2-га паверху, і грошы скончыліся. Мы зноў да іх з пытаньнем: "Калі працягнецца будаўніцтва?"… Каб хто ведаў, колькі разоў мы грукаліся ў розныя дзьверы з гэтай нагоды!.. Але пабудавалі і добра, абы людзям было зручна", – падсумавала Тацяна.

**Ян Сьведка**

ІНІЦЫЯТЫВА

## ЗРОБІМ ВІЦЕБСК ЗЯЛЁНЫМ

**Не сакрэт, што ўсе новыя мікраёны Віцебска да гэтага часу застаюцца без зялёных насаджэнняў. З прыходам лета, асабліва калі суха і спякотна, па новых раёнах гуляе вецер разам з брудным пылам, смеццем і непрыемным пахам. Шматлікія звароты да ўладаў не даюць выніка — пусткі застаюцца голымі, дрэваў высажваецца мала, але і тыя, што высажваюцца, з цяжкасцю прыжываюцца без нагляду.**

Сітуацыю з зялёнымі насаджэннямі на «Югах» узяліся выправіць мясцовыя жыхары, адзін з якіх, Аляксандр Ільінец, распавёў пра некаторыя планы па азеляненню свайго раёна. " Мы будзем рабіць усе магчымыя захады каб было высаджана як мага больш дрэваў, кустоў уздоўж вуліц Чкалава і Воінаў-Інтэрнацыяналістаў, збіраем подпісы каб тая пустка паміж запраўкай «Белнафта» і СТА (пажадана два бакі вуліцы ад помніка да праспекта Чарняхоўскага) была засаджана дрэвамі, пракладзены вела і пешаходныя дарожкі«.

Па выніках сустрэчы актывістаў з начальнікам аддзела архітэктуры і горадабудаўніцтва гарвыканкама (галоўным архітэктарам горада Віцебска) Ігарам Андрэевічам Кадушкам стала зразумелым, навошта прымаўся Генплан Віцебска і вызначаліся зоны перспектыўнай забудовы. Склалася ўражанне, што гэты генплан прынялі адмыслова для таго, каб не чуць і не выконваць пажаданні жыхароў горада па паляпшэнню якасці жыцця.

Адзін з ініцыятараў збору подпісаў Аляксандр Ільінец і прапанаваў ідэю высадкі дрэваў на пустуючых тэрыторыях, пракладкі вела- і пешаходных дарожак, стварэння зонаў адпачынку для дзетак і сталых людзей, спартыўных пляцовак: «Мне не падабаецца, што маладыя маці з каляскамі гуляюць уздоўж загазаваных вуліц, дыхаючы выхлапнымі газамі аўто. Будзе лепш для малых дзетак гуляцца сярод зялёных насаджэнняў, адпачываць на лавачках, якія стаяць сярод зялёных дрэваў, велааматары будуць з большым імпэтам круціць педалі сваіх веласіпедаў па дарожках, пракладзеных сярод дрэваў».

Ініцыятыва «Зялёны Віцебск» склалася з актыўных жыхароў Віцебска і раёна, якія прапануюць як мага хутчэй высадзіць дрэвы на ўсіх прыдатных пляцоўках горада. Але першая з мэтавых тэрыторыяў на вуліцы Воінаў-Інтэрнацыяналістаў аказалася зарэзерваванай для пабудовы грамадска-гандлёвага аб'екта і чакае свайго інвестара. А высаджваць дрэвы там немэтазгодна, таму, што інвестару прыйдзецца высадзіць у пяць разоў больш дрэваў на свабодных тэрыторыях пры забудове гэтага ўчастка. І як паведаміў галоўны архітэктар горада,, у гэтую вясну патрэбна высадзіць амаль ТЫСЯЧУ дрэваў, таму Ігар Андрэевіч параіў жыхарам горада звяртацца да домакіраўніцтваў з прапановамі паведаміць, дзе патрэбныя такія высадкі дрэваў, таксама дырэктары навучальных установаў горада могуць азеляняць сваю тэрыторыю з дапамогай супрацоўнікаў «Зеленгаса».

Збор подпісаў за зялёны Віцебск працягваецца, напярэдадні чакаюць сустрэчы з адказнымі асобамі па месцу знаходжання участакаў, якія прапануюцца для азелянення.

**А.Адамаў**

ПА-САВЕЦКУ

## ЛЁЗУНГ ЗАСТАНЕЦЦА БЯЗ ЗЬМЕНАЎ

**Больш за паўсотню віцяблян падпісалася пад зваротам у Віцебскі гарвыканкам з просьбай замяніць лёзунг на доме па Маскоўскім праспэкце, 8 на плошчы Перамогі. Замест надпісу "Подвиг советского народа бессмертен" прасілі ўсталяваць лёзунг "Подзьвіг беларускага народа несьмяротны". Атрымалі натхнёную адмову...**



Намесьнік старшыні Віцебскага гарвыканкаму Віктар Глушын адказаў, што "надпіс "Подвиг советского народа бессмертен" цалкам адпавядае гістарычнай рэчаіснасьці і яго зьмяненьне немэтазгоднае".

Паведаміў таксама, што ўрачыстае адкрыцьцё плошчы адбылося адначасова з адкрыцьцём мэмарыяльнага комплексу (у народзе – "Тры штыкі") ў гонар савецкіх воінаў-вызваліцеляў 30 чэрвеня 1974 году. І што "дадзены надпіс нагадвае тысячам гасьцей і жыхарам гораду пра непарушную інтэрнацыянальную згуртаванасьць воінаў Чырвонай Арміі, партызан і падпольшчыкаў у вызваленьні Віцебшчыны ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў".

Чыноўнік згадаў, што ўдзельнікамі вызваленьня Віцебшчыны былі ня толькі беларусы, але і рускія, украінцы, літоўцы, эстонцы, таджыкі, армяне, азэрбайджанцы, малдаване ды іншыя, а ва ўзброеных сілах СССР служылі прадстаўнікі 151 нацыі і народнасьці.

"Плошча Перамогі – гэта цэласны (менавіта так у адказе – праз "е" - ВВ) архітэктурны ансамбаль, дзе кожны элемэнт адзначаецца яснасьцю ўспрыманьня, мае глыбокі сэнс і асаблівае значэньне. Сьветлавы надпіс "Подвиг советского народа бессмертен" на доме №8 па Маскоўскім праспэкце зьяўляецца непадзельнай часткай плошчы Перамогі", – гаворыцца ў адказе на калектыўны зварот.

"Вялікая Перамога – гэта найважнейшая духоўная каштоўнасьць, маральны арыентыр для ўсіх пасьляваенных пакаленьняў, якія выхоўваюцца на ідэалах сяброўства, братэрства і добрасуседзтва", – піша Віктар Глушын.

На гэтай падставе лічаць, што зьмяняць лёзунг – немэтазгодна.

Адзін з аўтараў калектыўнага звароту віцяблянін Мікола Качурэц, камэнтуючы адмову, кажа, што іншага адказу і не чакаў: "Бо ва ўладзе сядзяць зараз людзі, выхаваныя ў традыцыях старой бальшавіцкай гвардыі. І няважна, колькі ім гадоў. Яны папросту баяцца нешта мяняць".

Даўгі дзевяціпавярховы дом на плошчы Перамогі ў Віцебску (Маскоўскі пр-т, 8) быў пабудаваны ў 1967 годзе. Стаў першым у горадзе вышынным жылым домам зь ліфтам і сьмецьцеправодам. У народзе яго называлі "баянам" ці проста "домам-подзьвігам".

Нагадаем, што раней мясцовыя ўлады адмовіліся разглядаць пытаньне аб перайменаваньні віцебскай "ленінкі" ў бібліятэку імя Васіля Быкава.

**«Віцебская Вясна»**

СПОРТ

# ПОДАРКИ ЗА СПОРТИВНЫЕ ДОСТИЖЕНИЯ

**Ученикам Мазоловской средней школы представители облисполкома подарили спортивный инвентарь.**

В этом учреждении образования реализуется инновационный проект «Внедрение модели Республиканского центра спортивной профессиональной ориентации как компонента единого образовательного пространства», который основывается на результатах биометрических исследований учащихся для определения их индивидуальных физических особенностей. Неслучайно учащиеся этой школы входят в число лучших на областных и республиканских стартах.

Порадовать и поздравить детей со значительными спортивными достижениями, а их в копилке юных мазоловчан немало (только в прошлом году они участвовали в 20 состязаниях различного уровня и завоевали свыше 50 медалей, а также на протяжении шести лет они являются победжают в круглогодичной районной спартакиаде школьников, регулярно входят в число лучших на областных и республиканских стартах), приехали заместитель председателя облисполкома Владимир Пенин и начальник главного управления по образованию облисполкома Дмитрий Хома. По словам Владимира Петровича, подобные акции будут проводиться и в дальнейшем, ведь очень важно сейчас отвлечь детей от гаджетов, прививая им любовь к спорту, чтобы они росли крепкими и здоровыми, а без наличия хорошего спортинвентаря в этом деле не обойтись. И дети в глубинке не должны оставаться в стороне, им также нужно создать необходимые условия. Современная спортивная база поможет ребятам раскрыть свои способности и в дальнейшем прославить район, область и страну.

Любовь к физкультуре и активному образу жизни ученикам Мазоловской средней школы с малых лет прививают педагоги Анна Бугаева и Иван Марченко. В выходные дни они возят своих подопечных, которые увлекаются лыжными гонками и биатлоном, тренироваться на лыжероллерную трассу в Городок.

По мнению учителей, укрепление спортивной базы должно поспособствовать новым победам, а также тому, чтобы в последующем выпускники школы продолжили заниматься спортом на профессиональном уровне.

Светлана Любочка.

**«Віцьбічы»**

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# «БЯЗ ПРАВА НА РАСПРАВУ» Ў ВІЦЕБСКУ

**Юрыст праваабарончага цэнтру "Вясна" Павал Сапелка прэзэнтаваў у Віцебску мультымэдыйны праект "Бяз права на расправу".**

Праект скіраваны на выяўленьне выпадкаў жорсткага, нялюдзкага абыходжаньня і катаваньняў з боку праваахоўных органаў.

Як патлумачыў выступоўца, ПЦ "Вясна" цягам 20 гадоў займаецца праблемамі катаваньняў ды жорсткага абыходжаньня, якое зьневажае чалавечую годнасьць. Але пачынаючы з кастрычніка 2018 году на адмысловым сайце праекту разьмяшчаюцца канкрэтныя гісторыі людзей, якія самі траплялі ў падобныя сытуацыі. Свае гісторыі распавядалі ня толькі жыхары Менску, але ўсіх рэгіёнаў Беларусі.

На сайце БезПраваНаРасправу разьмешчаныя таксама парады для тых, хто стаў ахвярай жорсткага абыходжаньня, узоры зваротаў і скаргаў.

Людзі часта не разумеюць, што такое жорсткае абыходжаньне, не ўяўляюць маштабу праблемы. Найчасьцей жорсткасьць успрымаецца гэтак: пабілі чалавека ў міліцыі, той выцер крой ды пайшоў да праваабаронцаў. Але ёсьць маса іншых выпадкаў, якія носяць схаваны характар, і людзі не заўсёды гатовыя гаварыць пра гэта.

Ці можна, напрыклад, лічыць правамернымі такія дзеяньні, калі затрыманага па адміністрацыйнай справе вядуць у суд у кайданках? І калі кайданкі могуць быць дарэчы пры затрыманьні крымінальніка, то яны цалкам непатрэбныя пры адміністрацыйным затрыманьні. У гэтым выпадку яны ёсьць нічым іншым, як сродкам прыніжэньня.

Ці яшчэ адзін прыклад. Хто б мог падумаць, што, атрымаўшы 8 гадоў турмы ў 2003 годзе, можна заставацца за кратамі і ў 2019-м? Неверагодна, але толькі "за злосные непадпарадкаваньне адміністрацыі калёніі і перашкоды ў зьдзяйсьненьні яе функцыяў" асуджаны атрымаў ужо 8 пакараньняў і можа, у лепшым выпадку, выйсьці на волю толькі яшчэ праз 2,5 гады. Гаворка пра сумна вядомы артыкул 411.

Вялікая праблема і ў тым, што Беларусь пакуль не выконвае патрабаваньняў міжнародных органаў абстварэньні механізму барацьбы з катаваньнямі і папярэджаньнем жорсткага абыходжаньня. У Беларусі дасюль не існуе органу, які займаўся б выяўленьнем і доказам фактаў жорсткага, бесчалавечнага абыходжаньня і катаваньняў.

У дзяржаве мусіць быць створаны нацыянальны прэвэнтыўны механізм, лічыць Сапелка. А адказныя амбудсмэны павінныя мець права прыйсьці ў любы час і ў любое месца пазбаўленьня волі без папярэджаньня і выканаць сваю справу па назіраньні (так гэта працуе, напрыклад, у Малдове).

"Тое-сёе робіцца і ў Беларусі, але гэтага недастаткова. Зараз можна скардзіцца

на жорсткасьць, праяўленую супрацоўнікамі ўнутраных справаў, ня толькі ў сьледчы камітэт, але і ў пракуратуру", – распавядае Павал Сапелка.

"Так склалася, але праваабаронцы ня могуць наўпрост кантактаваць з нашым урадам і дзяржавай. Рэальнага дыялёгу з уладамі, на жаль, наладзіць не атрымліваецца. Адзінае, што можам, – гэта ўплываць на тыя ці іншыя пытаньні праз розныя міжнародныя інстытуты. І калі гэта нейкім чынам працуе, мы працягваем рабіць гэта", – падкрэсьлівае праваабаронца.

Павал Сапелка расказаў, што летась некалькі праваабарончых арганізацыяў выступілі з альтэрнатыўным дакладам у Камітэце ААН супраць катаваньняў. Рабіла сваю справаздачу і дзяржава.

"Але калі задача дзяржавы – паказаць, як у пытаньні барацьбы з катаваньнямі ўсё цудоўна, то задача праваабаронцаў заключалася ў выяўленьні рэальных праблемаў, зьвязаных з гэтай тэматыкай", – заўважыў Сапелка.

Ён кажа, што Беларусь дагэтуль ня мае артыкулу, які б прадугледжваў крымінальную адказнасьць за акты катаваньняў і жорсткага абыходжаньня. Таму многія выпадкі супрацьпраўных дзеяньняў праваахоўнікаў папросту ня ўлічваюцца і застаюцца па-за ўвагай праваабаронцаў і грамадзтва.

Пасьля выступу ўдзельнікі сустрэчы задавалі юрысту пытаньні аб законнасьці затрыманьня па адміністрацыйным правапарушэньні на 72 гадзіны, невыкананьні дзяржавай рашэньняў Камітэту па правах чалавека ААН ды іншыя. Найбольш вострыя і балючыя пытаньні задалі бацькі асуджаных па арт. 328 КК РБ.

**Якаў Дрозд**

УВАГА!

# «БЕРАЖЫЦЕ СЯБЕ!»

**У Міжнародны дзень барацьбы з наркаманіяй і наркабізнэсам, які адзначаецца 1 сакавіка, віцебскія актывісты «Руху маці 328» інфармавалі гараджан аб небясьпецы ўцягваньня школьнікаў і моладзі ў наркабізнэс у якасьці кур'ераў інтэрнэт-крамаў.**

«У цяперашні час у нашай краіне пачасьціліся выпадкі масавага ўцягваньня школьнікаў і моладзі ў наркабізнэс шляхам працаўладкаваньня ў якасьці кур'ера (закладчыка) у інтэрнэт-крамы, якія спэцыялізуюцца на продажы псыхаактыўных рэчываў. Запрашэньні прыходзяць як праз прыватныя паведамленьні ў сацсетках і мэсэнджэрах, так і праз навочную рэкляму адрасоў на прыпынках грамадзкага транспарту і фасадах дамоў», — гаворыцца ва ўлётцы.

«Памятайце! Праца кур'ерам у дадзеным выпадку падпадае пад крымінальную адказнасьць, якая наступае ад 14 гадоў (!), кваліфікуецца як злачынства, зьдзейсненае ў складзе міжнароднай арганізаванай злачыннай групы і караецца пазбаўленьнем волі на тэрмін ад 10 да 25 гадоў з канфіскацыяй маёмасьці (артыкул 328, ч. 3-5 КК РБ)», — папярэджваюць актывісты.

«Будзьце пільныя! Беражыце сябе і сваіх блізкіх!» — заклікаюць «Маці-328».

Актывістка Натальля Шарыпа кажа, што бацькі асуджаных паводле арт. 328 будуць раздаваць такія ўлёткі штодзень, бо дзяржава не дае рады з засільлем наркарэклямы ў беларускіх гарадах.

Натальля паведаміла таксама, што падобныя ўлёткі будуць разасланыя ў розныя дзяржустановы, у прыватнасьці ў Віцебскі аблвыканкам і гарадзкія аддзелы адукацыі, з просьбай аб дапамозе ў распаўсюдзе інфармацыі.

«Застаючыся абыякавымі і адпраўляючы за краты маладых людзей, якія аднойчы памыліліся, мы дазваляем „квітнець" сапраўднаму наркабізнэсу», — мяркуюць удзельнікі «Руху маці 328».

Нагадаем, што нядаўна актывісткі зьвярнуліся да прэм'ер-міністра Сяргея Румаса, старшыні Палаты прадстаўнікоў Уладзімера Андрэйчанкі ды іншых высокапастаўленых чыноўнікаў з адкрытым лістом.

Зьміцер Міраш.

**Віцебская Вясна**

ПРЫЗЫЎ

# "БУДЗЕ ЯШЧЭ ГОРШ"

**Ваенны камісар Віцебскай вобласьці палкоўнік Руслан Шкодзін паведаміў, што летась у войска пайшло на 333 чалавека менш, чым было заплянавана. "Сёлета сытуацыя чакаецца яшчэ горш", – цытуе ваенкома абласная газэта "Витебские вести".**

"Кожны прызыўнік сёньня на вагу золата. Мінулым разам мы ня здолелі выканаць даведзенае заданьне, накіраваўшы ў войска на 333 навабранцы менш, чым неабходна. Сёлета сытуацыя чакаецца яшчэ горш. Прычым праблема ёсьць ня толькі з камплектацыяй Узброеных Сілаў, але і памежных і ўнутраных войскаў МУС Беларусі, што выклікае асаблівую занепакоенасьць напярэдадні правядзеньня Эўрапейскіх гульняў у Менску. Таксама цяжка знайсьці спэцыялістаў у сыстэму супрацьпаветранай абароны", – паведаміў выданьню ваенком Віцебскай вобласьці.

"Кіраўнікі раённых прызыўных камісіяў павінны наладзіць узаемадзеяньне паміж ваеннымі камісарамі, міліцыянтамі і пракурорамі, каб большэфэктыўна змагацца з "ухілістамі", – падкрэсьліў Руслан Шкодзін.

Паводле інфармацыі камісарыяту, у 2018 годзе былі выяўленыя 67 асобаў, якія ўхіляліся ад службы ў войску.

"Трэба ўзмацніць прафіляктычную і тлумачальную працу, каб хлопцы сьвядома ішлі выконваць свой грамадзянскі абавязак. Праводзіць мерапрыемствы гэроіка-патрыятычнай накіраванасьці, у тым ліку сустрэчы з вэтэранамі Вялікай Айчыннай вайны, удзельнікамі баявых дзеяньняў на тэрыторыі іншых дзяржаваў", – мяркуе ваенком.

Нагадаў, што Мінабароны ўжо падрыхтавала прапановы зьменаў у заканадаўстве. Прапануюць, у прыватнасьці, адмяніць шэраг адтэрміновак і ўзмацніць адказнасьць для нядбайных прызыўнікоў. Але вясеньні прызыў-2019 будзе праходзіць пакульшто паводле дзейнага заканадаўства.

**Паводле "Витебские вести"**

## АБ'ЯВА

***Каб атрымліваць кожны нумар газэты "Дзвінскі Ўзгорак" паведаміце рэдакцыі аб гэтым. Калі не жадаеце атрымліваць газэту, то патэлефануйце.***

***Калі парушаны вашы правы спажыўца, працаўніка, то даем эфектыўныя парады па абароне права і пошуку бясплатных юрыстаў. Звяртайцеся на адрас газэты "Дзвінскі Ўзгорак".***

***Наша газэта стала размяшчацца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе сьпампаваць яшчэ да з'яўленьня газэты на паперы.***



Дзвінскі ўзгорак

ПАЛІТАЛОГІЯ

# ВЯЛІКАЯ РАЗМОВА ПРА ЛЕТАШНІ СНЕГ

**Аснову сучаснага глабальнага канфлікту «складае барацьба сучаснага і несучаснага светаў». Гэту думку аўтар «Азбукі паліталогіі» запазычыў з кнігі расійскага эканаміста Уладзіслава Іназемцава «Несучасная краіна». Кніга прысвечаная Расіі. Аднак гэта, калі пагадзіцца з адзіным палітыкам (АП), «наша Расія».**




Можна, зразумела, і не згаджацца, аднак роднаснасць дзвюх мадэляў адмаўляць складана. І першае, што кідаецца ў вочы, — гэта дэфіцыт унутраных крыніц развіцця, што і пацвердзіла «Вялікая размова», якая адбылася 1 сакавіка. Сем з паловай гадзін не хапіла АП для таго, каб патлумачыць, за кошт чаго пад канец наступнай пяцігодкі ВУП Беларусі складзе $ 100 мільярдаў. І гэта нягледзячы на наўпроставае пытанне, якое паступіла ад аднаго з удзельнікаў «размовы».

На працягу стагоддзяў «славянская цывілізацыя», пад якой АП разумее Расію, Беларусь і Украіну, развівалася за кошт знешніх запазычанняў, што не замінала (якім бы дзіўным гэта ні падавалася) фарміраванню пачуцця выключнасці, не перашкодзіла памкненню не столькі даць свету нешта новае, колькі не дапусціць страты ранейшых здабыткаў. Адсюль культ стабільнасці, пакланенне якому і апынулася ў цэнтры «Вялікай размовы».

**Не вёў агітацыю і не збіраецца**

«Нам трэба будзе даць аб’ектыўную ацэнку адносна самых абмяркоўваемых тэмаў, якія асабліва хвалююць людзей і грамадства… А па асобных пытаннях нам трэба кампенсаваць недахоп дакладнай інфармацыі, паток якой штодня абрушваецца на кожнага з нас», — такімі словамі акрэсліў АП мэту «Вялікай размовы».

Мэта агульная, але асобна для СМІ, «якія пазіцыянуюць сябе як незалежныя», гаспадар мерапрыемства нагадаў пра існаванне мяжы дапушчальнага, за «якой парушаецца раўнавага ў грамадстве». Што ж, своечасовы напамін. Да аўтара «Азбукі паліталогіі» гэта мае непасрэднае дачыненне.

Не абышлося і без панегірыкаў на адрас «сённяшняга чытача». АП ахарактарызаваў яго як адукаванага, які ўмее аналізаваць, разбірацца «ў тонкасцях журналісцкіх маніпуляцый» і авалодаў мастацтвам «хутка счытваць, чые ці якія інтарэсы стаяць за анонсам праграмы або загалоўкам навіны».

Ці існуе такі чытач у прыродзе — пытанне спрэчнае. Але калі існуе, дык незразумела, чаму пры наяўнасці чытачоў, здольных адрозніваць праўду ад хлусні па адных толькі загалоўках, так званыя «фэйкавыя навіны», нават пасля іх выкрыцця, здольныя «бударажыць людзей»?

Зразумела, не абышлося без развагаў пра маючыя адбыцца парламенцкія і прэзідэнцкія выбары.

У несучасных краінах — а такіх у свеце большасць — выбары не маюць на мэце рэальную канкурэнцыю кандыдатаў, якія прапануюць выбаршчыкам розныя шляхі развіцця краіны. Прыклад, як правіла, падаюць уладныя кандыдаты. Таму не варта здзіўляцца заяве АП пра тое, што ён у мінулую перадвыбарчую кампанію не вёў агітацыю, дый падчас маючай адбыцца таксама не збіраецца тое рабіць.

Нацыянальная адметнасць выбараў у Беларусі такая, што забяспечваецца высокая яўка выбаршчыкаў і падтрымка канструктыўных кандыдатаў і без адміністрацыйнай мабілізацыі электарату. Навошта ж дарма марнаваць народныя грошы на агітацыю? Выбаршчыкі, якія па анонсах праграм кандыдатаў адназначна разумеюць, чые інтарэсы тыя на самай справе прэзентуюць, у агітацыі не маюць патрэбы.

Строга кажучы, само паняцце «выбары» ў наш несучасны свет прыцягнутае за вушы са свету сучаснага. У нас — не выбары, а галасаванне. «Таму што выбары, — тлумачыць расійскі палітолаг і журналіст Яўгенія Альбац, — гэта не толькі момант, калі вы апускаеце свой бюлетэнь, выбары — гэта на самай справе працэс. Гэта перадвыбарчая кампанія, падчас якой прадстаўнікі розных палітычных партый маюць магчымасць прапанаваць выбаршчыкам розныя кошыкі сваіх прапаноў. Свае праграмы».

І ёсць яшчэ адна нацыянальная асаблівасць, пра якую ўвесь час нагадвае кіраўнік дзяржавы: маючыя адбыцца палітычныя падзеі ў нас традыцыйна стануць экзаменамі — і не толькі для АП, але і для ўсіх узроўняў вертыкалі.

Выбары, такім чынам, плаўна трансфармуюцца ў цырыманіял акламацыі (ад лацінскага слова «acclamatio» — «крык», «усклік», «вокліч»). Так у старажытным Рыме гарадское насельніцтва воклічамі выказвала адабрэнне або незадавальненне наконт пастановаў уладаў, якія зачытваліся ў цырку. Можна прыгадаць і казакоў з іх ухвальнымі воклічамі «люба!» на Вайсковым коле.

**Адгадаць з трох разоў**

Несучасныя краіны любяць укідваць у інфармацыйную прастору пытанні, якія не маюць на ўвазе адмоўнага адказу, а калі і маюць, дык выключна з боку «нацыяналістаў», «пятай калоны», «ворагаў народа» і да т.п. Гэтым, у прыватнасці, тлумачыцца перакос знешнепалітычных пытанняў над эканамічнымі.

Вернемся ў Нацыянальны выставачны цэнтр «Белэкспа», дзе праходзіла «Вялікая размова». «Вы ўсе ведаеце, што знешняя палітыка Беларусі шматвектарная і праводзіцца выключна ў інтарэсах забеспячэння бяспекі і захавання міру на нашай планеце. Мы супраць любых праяваў агрэсіі, як ваеннай, так і на злобу дня — інфармацыйнай».

Хто і што тут можа запярэчыць? Гэта ж не публічна дыскутаваць наконт эфектыўнасці палітыкі ў галіне падаткаабкладання або фарміравання расходнай часткі бюджэту, як гэта робіцца ў сучасных краінах. Але ідзем далей.

«Па перыметры нашай мяжы ўзнікаюць новыя кропкі напружанасці. Дагаворы, якія забяспечвалі баланс ваенных сіл на планеце, разыходзяцца па швах. У разгары новая гонка ўзбраенняў», — палохае журналістаў і экспертаў АП. А каб быць пераканаўчым, ён пераходзіць да тэмы падвойных стандартаў краін NATO. Польшча, паводле яго словаў, мае намер выдаткаваць

*(працяг на стар. 4)*

ЗАРОБКІ

# КОГДА БУДЕМ ЗАРАБАТЫВАТЬ «ДОСТОЙНУЮ» ЗАРПЛАТУ?

**По производительности труда Беларусь в пять раз отстает от стран Евросоюза, отмечают авторы Концепции национальной стратегии устойчивого развития Республики Беларусь до 2035 года.**

Руководитель Аналитического центра «Стратегия» Леонид Заико не согласен, что производительность труда в стране настолько ниже, чем в Евросоюзе. Он говорит, что этот показатель часто отождествляют со стоимостными величинами цен на продукцию и ее количеством, которое создает один работник. Но это не производительность труда, а выработка.

— В советские времена расчеты производительность труда инженеров, котроллеров, операторов крупных предприятий оценивали как 0,75 от производительности условно американского работника. Для вспомогательных работ это было 0,25. То есть если смотреть на структуру рабочей силы, то мы отставали в четыре раза. А если сейчас пишут, что у нас 20% от европейской, то я хочу спросить, чем вы это меряли? – говорит Леонид Заико.

Как правило, чем выше производительность труда человека, чем он больше создает товаров и услуг за единицу времени, тем выше у него зарплата.

Для устойчивого экономического роста, по подсчетам экспертов, производительность труда должна увеличиваться хотя бы на 5% в год.

Традиционно в Беларуси называют проблемой отрыв роста заработных плат от производительности труда. Есть предприятия, где из-за излишней занятости зарплаты сильно завышены по сравнению с вкладом работников в результаты производства.

Но ситуация неоднозначна, а порой прямо противоположна. За общими показателями производительности труда может скрываться иная ситуация в разрезе отдельных предприятий и отраслей экономики.

– Есть одно конкретное крупное предприятие, которое занимает неплохие позиции внутри страны и на рынках третьих государств, имеет хорошие показатели прибыли по данным финансовой отчетности, но зарплаты у рабочих невысокие. И за последние пять лет в долларовом эквиваленте росли заметно меньше по сравнению с динамикой роста средней зарплаты по стране. Причем, если замерить производительность труда на аналогичном предприятии в стране ЕС, не исключено, что она может совпадать, – приводит пример аналитик исследовательской группы Businessforecast.by Александр Муха.

Чтобы подстегнуть рост производительности труда, руководству страны и принимающим решения предстоит работать над целым комплексом задач, считает аналитик.

— Это и экономические реформы, структурные рыночные реформы, направленные на повышение конкурентоспособности и качественные изменения структуры национальной экономики, и положительные социальные изменения в белорусском обществе, — объясняет Александр Муха.

То есть это вопрос структурной перестройки национальной экономики. Повысить производительность труда можно за счет более активного привлечения иностранных инвестиций, раскрепощения деловой инициативы внутри страны. Это сокращение уровня коррупции и экономических преступлений, уменьшение социального расслоения в обществе, изменение подходов к формированию зарплат, выработка актуальных мотиваций и стимулов к работе, создание более благоприятных условий для ведения бизнеса.

— Здесь же углубление региональной экономической интеграции в формате Евразийского экономического союза, а также долгожданное присоединение Беларуси ко Всемирной торговой организации, — добавляет Александр Муха.

Если двигаться по всем этим фронтам, то можно ожидать более оптимистичных экономических показателей. Ключевым из них экономист называет среднедушевой валовой внутренний продукт по паритету покупательной способности.

— Нужно расти немного быстрей. Для этого важно поощрять инвесторов и бизнес в создании проектов, даже с нуля, где будут рабочие места с более высокой добавленной стоимостью – соответственно более высокой производительностью труда, более высокой заработной платой, — говорит Александр Муха.

Пока же более низкий уровень производительности труда в Беларуси по сравнению с развитыми государствами приводит к более низкому уровню социального и экономического развития. Это сказывается на многих возможностях белорусов, которые зависят от уровня доходов.

— Очевидно, что при более высоких доходах, которые возможны при более высокой производительности труда, белорусы могут обеспечить себе более качественную и достойную жизнь, — отмечает аналитик исследовательской группы Businessforecast.by.

Более того, открывшиеся возможности позволят многим белорусам преодолеть ловушку бедности.

**Наталья Колесниченко**
**Завтра твоей страны**

ПАЛІТАЛОГІЯ

*(пачатак на стар. №3)*

на абарону каля $ 50 мільярдаў. У той жа час на любы крок у адказ Беларусі і Расіі ў напрамку ўмацавання ўласнай ваеннай моцы ў Еўропе пачынаюць «гвалтам крычаць».

АП заклікаў незалежныя СМІ быць аб'ектыўнымі і ставіцца да падобных фактаў з пункту гледжання нейкага аднаго крытэру. Своечасовы заклік. Грэх ім не скарыстацца. На працягу 5 гадоў аўтар «Азбукі паліталогіі» быў удзельнікам канферэнцыі «Рубікон». Канферэнцыя праходзіла ў Таліне ў будынку парламента. З уступным словам да ўдзельнікаў канферэнцыі, як правіла, звярталася міністр замежных спраў Эстоніі. Натуральна, яна казала пра міралюбную палітыку краіны і рэгулярна скардзілася на тое, што, у адпаведнасці з нормамі NATO, Эстонія вымушаная марнаваць на абарону 2% дзяржаўнага бюджэту.

Я не эксперт па Эстоніі, але выключна знешне аб'ектыўнасць слоў міністра пацвярджала адсутнасць людзей у ваеннай форме на вуліцах Таліна. Аднак у адзін з маіх прыездаў гатэль, у якім разляшчаліся ўдзельнікі канферэнцыі, быў перапоўнены афіцэрамі NATO (пераважалі немцы). Прапаную чытачам з трох разоў здагадацца, у які год здарылася гэта неардынарная падзея.

Той, хто назаве 2014-ы, не памыліцца. З таго ж года калоны ваеннай тэхнікі сталі часткай інтэр'еру эстонскіх дарог. Але што тут прычына, а што следства? Ці не час АП разабрацца з адказам на гэтае пытанне і назваць рэчы сваімі імёнамі, замест рэгулярных развагаў на тэму адсутнасці ў Еўропе захаплення з нагоды «абранага Беларуссю курсу на пабудову сацыяльна арыентаванай дзяржавы, падпарадкаванай інтарэсам чалавека».

**Разбой на месцах**

У чым АП мае рацыю, дык гэта ва ўзмацненні расколу ў свеце. Калі ў 1800 годзе, калі верыць англійскаму статыстыку Ангусу Мэдзісану, паводле ВУП на душу насельніцтва перадавыя краіны апярэджвалі адсталыя ў 4 разы, то ў цяперашні час — у 100 разоў, і разрыў працягвае павялічвацца.

Зноў працытую Іназемцава: «Сучасныя краіны становяцца ўсё больш сучаснымі (у тым ліку выкарыстоўваючы рэсурсы і грамадзян астатняга свету), а несучасныя — усё больш архаічнымі. Мы прысутнічаем пры нараджэнні свайго роду «расколатай цывілізацыі», дзе імклівa фармуюцца полюсы багацця і беднасці, поспехаў і няўдач. У такіх умовах замацаванне краіны сярод адкрыта несучасных, якое ажыццяўляецца ў інтарэсах вузкага кола цалкам глабалізаванай эліты, уяўляе сабой прыклад маштабнай нацыянальнай здрады».

У беларускай несучаснасці ёсць свае бенефіцыяры. Мабыць, самы яркі момант «Вялікай размовы» — аповед АП пра прынцыпы размеркавання зямлі ў Беларусі.

Даўно ўжо ні для каго не з'яўляецца таямніцай, што без рашэння АП ні кавалка зямлі ці лясных угоддзяў у нас не атрымаць. Чаму? А таму, што на месцах «разбой пачынаецца». «Вось так і з усёй уласнасцю».

Але прабачце, а хто пачынае разбой на месцах: нацыяналісты, прадстаўнікі так званай «пятай калоны» або прызначаныя асабіста АП чальцы ўладнай «вертыкалі» ў асобе кіраўнікоў раённых і абласных адміністрацый?

Адказ відавочны, бо нічога больш несучаснага, чым уладная «вертыкаль» у пытаннях кіравання ў наш час няма

**Сяргей Нікалюк**
**"Новы Час"**

ГЭТА ТАМ

# ФИНСКИЕ УРОКИ ДЛЯ БЕЛОРУССКИХ ВЛАСТЕЙ

**Дождемся ли мы когда-нибудь добровольных отставок правительства?**

Премьер-министр Финляндии Юха Сипиля подал прошение об отставке правительства. Причиной отставки послужила неудачная реформа здравоохранения и соцобеспечения. Кабмин Финляндии не смог согласовать позиции по ней, сообщает Финляндское информационное агентство.

Беларусь — не Финляндия. У нас, говорят, свое понятие спокойной и нормальной жизни. И все же сравнение просится. Интересно, сколько раз в нашей стране сменилось бы правительство, если бы власти страны начали придерживаться финских стандартов?

А поводов для прошения об отставке у нас хоть отбавляй. Сколько раз реформировалась система образования? И каков итог этих бесконечных реформ?

А белорусская система здравоохранения, сотрясаемая коррупционными скандалами?

А модернизация деревообработки и цементных заводов, закончившаяся пшиком и огромными убытками?

Примеры можно приводить долго, но факт остается фактом — пример Финляндии для нас — словно привет из параллельной реальности. Власти вроде бы начали открыто говорить о провалах в экономике. Но брать на себя ответственность за это они явно не торопятся.

**Кирилл Иванов**
**«Солидарность»**

УЛАДА

# ДЫКТАТУРА — БРЭНД БЕЛАРУСІ

**Прэс-сакратарка кіраўніка Беларусі ўзялася за апраўданьне беларускай дыктатуры.**

**Знойдзены брэнд Беларусі**

Шмат гадоў беларускае грамадзтва шукае нацыянальную ідэю. Дзеля гэтага працуюць цэлыя дзяржаўныя інстытуты, правялі шмат ток-шоў на БТ. Некалькі канфэрэнцыяў было прысьвечана пошуку брэнду Беларусі. За турыстычны брэнд Менску адной замежнай фірме нават заплацілі нямалыя грошы. Зь Вялікай Брытаніі выпісвалі цэлага лорда Бэла, каб прапіярыць лукашэнкаўскую Беларусь у Эўропе. І ўсё марна.

І вось эўрыка. Прэс-сакратарка Аляксандра Лукашэнкі Натальля Эйсмант адным скокам вырашыла праблему, над якой мучыліся сотні інтэлектуалаў. Яна проста пасароміла іх. І цяпер краіна можа спаць спакойна. Сп-ня Эйсмант вызваліла беларусаў ад невыноснага маральнага цяжару. Сякера аказалася пад лаўкай, а раяль стаяў у кустах. Бо, як вядома, усё геніяльнае — простае.

Вось што значыць быць у адным інтэлектуальным полі з чалавекам, пра «маштаб асобы, маштаб мысьлі» якога Натальля выказваецца з вялікім піетэтам і прыдыханьнем. Бо свой магічны арэол ён распаўсюджвае на сваё атачэньне.

«Мне здаецца, мы ўжо так часта вымаўляем гэтае слова, што дыктатура — гэта ўжо наш брэнд», — сказала сп-ня Эйсмант у эфіры АНТ. Вось яна — мудрасьць вякоў.

Інтэрвію прэс-сакратаркі ў перадачы «Маркаў. Нічога асабістага» цікавае менавіта яе шчырасьцю. «O sancta simplicitas» («О, сьвятая прастата!») — сказаў Ян Гус на вогнішчы, калі ўбачыў, што нейкая бабулька у прастадушнай старannасьці кінула ў агонь гальлё. Сьвятая прастата Эйсмант таго самага кшталту.

**Магія дыктатуры**

Ёсьць такая зьява, як «магія дыктатара». У тэлесэрыяле «Гульні тронаў» запомнілася такая фраза: «Улада — гэта цень чалавека на сьцяне. Чалавек можа быць маленькі, а цень вельмі вялікі». Гэта якраз беларускі выпадак.

Працуючы пэўны час з Лукашэнкам, Эйсмант пачынае пераймаць стыль мысьленьня, паводзінаў, нават лексыкон шэфа. Вось прыклад. Сярод іншага Маркаў запытаўся ў Натальлі, паводле якога прынцыпу адбіраліся журналісты, экспэрты на «Вялікую размову з прэзыдэнтам», а таксама якім чынам там задаваліся пытаньні. «Калі б я адбірала пытаньні і тэмы, мне прэзыдэнт проста галаву адкруціў бы», — прастадушна адказала Эйсмант.

Шмат разоў мы чулі ад Лукашэнкі падобную тэрміналёгію: «па мордзе даць», «зьвернем галаву», «ногі паадкручваем», «рукі паадсякаем» і інш. І вось цяпер з вуснаў прыгожай, інтэлігентнай жанчыны гучыць жаргон, слэнг крымінальных разборак. Гэта адбываецца падсьвядома, на аўтамаце. З кім павядзесься...

**Прыклады маштабу асобы Лукашэнкі**

Яшчэ адзін цікавы сюжэт інтэрвію. Эйсмант, апавядаючы пра маштаб асобы Лукашэнкі, кажа: «Наблізіцца да гэтага ўзроўню генэраваньня ідэяў вельмі складана і нават, напэўна, немагчыма».

З гэтай нагоды мой калега Віталь Цыганкоў піша у фэйсбуку: «На гэтым момaнце я нават унутрана напружыўся, чакаючы, пра што ж яна зараз раскажа. Можа, пра выпрацоўку стратэгіі разьвіцьця краіны, ці стварэньне нацыянальнай ідэі, ці там хаця б плян пашырэньня экспарту. І тут Эйсмант раскрывае „маштаб ідэяў" — аказваецца, размова ідзе пра навагодні баль і пра хакейную сэрыю. Маштаб зашкальвае, лішне казаць».

Сапраўды, прыклады, заклiканыя паказаць маштаб асобы Лукашэнкі, проста забойныя. Сп-ня Эйсмант выдае за нестандартнасьць, крэатыўнасьць мысьленьня элементарныя панскі капрыз. Маўляў, хачу паглядзець, як Качанава будзе танчыць з Румасам (Лукашэнка сам пра гэта расказаў 1 сакавіка). І ўся дзяржаўная машына закруцілася, каб задаволіць нораў валадара.

Ці яшчэ адно дзіцячае жаданьне арганізаваць сэрыю хакейных гульняў паміж зборнай экстралігі і камандай «Дынама-Мінск». Тры гульні дзеля аднаго гледача. Тое, што студэнтаў і школьнікаў нагналі на арэну, — ня лічыцца. І хакеісты «Дынама-Мінск», траўмаваныя, у разабраным стане пасьля заканчэньня сэзону, нібы артысты прыгоннага тэатру, былі вымушаныя гуляць.

**Анамалія прымаецца за норму**

Але насамрэч праблема глыбейшая, чым абэрацыя зроку прэс-сакратаркі дыктатара (цяпер гэты тэрмін легалізаваны). Рэч у тым, што вырасла цэлае пакаленьне людзей, якія, акрамя дыктатуры Лукашэнкі, больш нічога ня бачылі, ня чулі, ня ведаюць. А Натальля Эйсмант — толькі прыгожае люстэрка, больш-менш адэкватнае адлюстраваньне гэтага фундамэнтальнага працэсу. На гэтым і палягае беларуская драма, што анамалія пачынае прымацца за норму.

Гэта ня мудрасьць вядомага філёзафа Валянціна Акудовіча, які разважае пра вялікі прагрэс з той нагоды, што беларусы ўпершыню за шмат вякоў займелі свайго ўласнага дыктатара. Гэта хутчэй сьвядомасьць простага савецкага чалавека, які сапраўды лічыў нязграбнага вусатага людажэра, што дрэнна гаварыў па-расейску, «правадыром усіх народаў», а данос на суседа разглядаў як грамадзянскі абавязак.

«Мы бачым, што адбываецца навокал, — хаос, часам беспарадак. Я, можа, нейкую парадаксальную рэч скажу, нечаканую, але часам мне здаецца, што яна сёньня дык заўтра, але пасьлязаўтра дакладна ў сьвеце можа паўстаць запыт на дыктатуру. Бо за дыктатурай у нашым сёньняшнім разуменьні ў першую чаргу мы бачым, на мой погляд, парадак, дысцыпліну і абсалютна нармальнае і спакойнае жыцьцё», — лічыць прэс-сакратар.

Паўгалодны савецкі калгасьнік, атрымліваючы за працу пустыя «працадні», таксама лічыў, што жыве ў самай шчасьлівай краіне сьвету, што ўвесь сьвет яму зайздросьціць і марыцьісьці тым жа шляхам. Тут мы назіраем «стакгольмскі сындром» вялікай часткі беларускага грамадзтва. Гэта калі ахвяры гвалту пачынаюць адчуваць сымпатыю да гвалтаўнікоў. Шмат беларусаў сапраўды лічаць, што выбары, такія, напрыклад, як цяперашнія ва Ўкраіне, — гэта «вакханалія», а тое, што адбываецца ў Беларусі пад выглядам выбараў, — гэта якраз норма, бо парадак і спакой. У гэтым сэнсе шчыраваньні Натальлі Эйсмант ёсьць цікавым дакумэнтам эпохі.

**Валер Карбалевіч**
**"Радыё Свабода"**

**Заснавальнік і рэдактар:** Смолікаў Канстанцін Эдуардавіч

**Адрас рэдакцыі:** г. Віцебск, вул. 1-я Сененская д.5, Тэл. +375-29-218-98-38, e-mail: kas_vit@tut.by
Газета выдаецца з лютага 2014 г.

**Падпісана да друку** 16.03.2019 у 16.20
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры падтрымцы аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.